# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

М. В.

№ 15



*Усе на піонэрскі зьлёт!*

# ШТО БУДЗЕ НА ЎСЕБЕЛАРУСКІМ ЗЬЛЁЦЕ.

З 10 да 15 жніўня ў Менску будзе адбывацца **Першы Ўсебеларускі Піонэрскі зьлёт.**

500 дэлегатаў-дзяцей прыедуць у Менск на зьлёт. Яны будуць разьбіты на атрады, а атрады на зьвеньні. Жыць будуць яны на кватэрах рабочых, у сем'ях піонэраў, якія самі іх запрашаюць да сябе. Яшчэ на станцыі дэлегаты будуць урачыста спатканы Менскімі піонэрамі.

### 10-ГА ЖНІЎНЯ.

А другой палове дню 10.000 дзяцей рабочых зьбяруцца ў садзе „Профінтэрн". Адчыніцца Першы Ўсебеларускі піонэрскі зьлёт парадам-мітынгам і дэманстрацыяй па вызначанаму шляху. Прымаць парад будуць прадстаўнікі ЦК КП(б)Б, ЦВК, ЦК ЛКСМБ, ЦСПСБ і ЦБ ЮП.

### ДРУГІ ДЗЕНЬ—11 ЖНІЎНЯ.

З раніцы пачынаюцца Ўсебеларускія піонэрскія спаборніцтвы па фізкультуры. Фізкультурная частка зьлёту падзяляецца на дзьве асноўныя часткі: частка спаборніцтва і частка паказальная. У праграму спаборніцтва ўваходзяць: спорт-гульні, гарадкі, волейбол, спаборніцтва па лёгкай атлётыцы, бег, скачкі, кіданьне ядра, плаваньне і скачкі ў ваду.

У праграму паказальнай часткі ўваходзяць: організацыя кутку фізкультуры на Ўсебеларускай выстаўцы, працы піонэраў, правядзеньне нацыянальных танцаў, скокаў і правядзеньне спартыўных гульняў з падлеткамі.

Спаборніцтвы праходзяць паміж колектывамі дзяцей, якія фармуюцца Акруговымі бюро ЮП выключна ў акруговых і буйных раённых асяродках.

А другой палове дню адбудзецца адчыненьне Ўсебеларускай конфэрэнцыі піонэраў.

З уступнай прамовай выступіць прадстаўнік ЦБ ЮП. Тутжа на гэтым паседжаньні зьлёт будуць вітаць батрачаты, дзеці колгасьнікаў, запрошаная дэлегацыя з Украіны, дэлегацыя піонэраў Усходняй Прусіі (Нямеччына). Будзе выступленьне і ад ЦК КП(б)Б, ЦВК, ЦК ЛКСМБ і Наркамасьветы. З рапартамі выступяць: Менская дэлегацыя, Полацкая і Гомельская. А ў заключэньне будзе дадзена кіно, альбо канцэрт.

### ТРЭЙЦІ ДЗЕНЬ—12 ЖНІЎНЯ.

У першай палове дню працягваюцца спаборніцтвы і гульні.

У другой палове дню ўсе дэлегаты паедуць у вайсковыя лягеры для спатканьня з чырвонаармейцамі. У лягерах піонэры азнаёмяцца з жыцьцём і бытам чырвонаармейцаў. Тут-жа ў лягерах адбудуцца і спаборніцтвы па вайсковых навыках між асобнымі дэлегацыямі. Чырвонаармейцы прадэманструюць перад зьлётам вайсковую гульню — „Бойку чырвоных і белых".

### ЧАЦЬВЕРТЫ ДЗЕНЬ—13 ЖНІЎНЯ.

У першай палове дню працяг дзелавой работы Ўсебеларускай конфэрэнцыі. З дакладам аб вопыце работы па-новаму выступіць прадстаўнік ЦБ ЮП. Пасьля дакладу рапарты атрадаў аб вопыце работы па-новаму: аднаго гарадзкога і другога вясковага атраду. На гэтым паседжаньні конфэрэнцыя разаб'ецца па сэкцыях для абгаварэньня дакладу ЦБ ЮП і выпрацоўкі наказаў грамадзкасьці. Усіх сэкцый будзе 9-ць і ахопяць яны ўсе галіны палітычна-грамадзкай і карыснай работы піонэратрадаў.

У другой палове дню дэлегаты наведаюць Усебеларускую выстаўку піонэраў. Усебеларуская выстаўка будуецца па тэматычнаму прынцыпу, гэта значыць на выстаўцы маюцца сталыя аддзелы (тэмы), куды ўваходзяць работы ўсіх раёнаў Беларусі. У выстаўцы будзе паказан удзел піонэраў у паходзе за ўраджай і колектывізацыю сельскай гаспадаркі, краязнаўча-натуралістычная праца. Праца і тэхніка ў піонэраў, радыё, авіё, мэханіка, фото, электратэхніка, хэмія. Будзе і аддзел дзіцячага вынаходніцтва і яшчэ цэлы шэраг аддзелаў.

На выстаўцы будзе паказана справаздача грамадзкасьці, як яна дапамагае дзецям. Будзе вечар самадзейнасьці ўдзельнікаў зьлёту і дзяцей Менску.

### ПЯТЫ ДЗЕНЬ—14 ЖНІЎНЯ.

У першай палове дню дэлегаты пойдуць на экскурсіі па фабрыках і заводах Менску. Дэлегаты таксама наведаюць і дзяржаўны музэй, музэй рэволюцыі, зоолёгічны музэй, музэй Дому Селяніна і пабудуць у саўгасе Сьляпянка.

Зьлёт будзе праводзіць экскурсію, разьбіўшыся па групах. У часе абедзенага перапынку па прадпрыемствах, дзе будуць дэлегаты-экскурсанты, адбудуцца кароткія мітынгі ўдзельнікаў зьлёту разам з рабочымі. Будзе наладжаны скарбоначны збор на карысьць падшэфных дзеткомгруп.

У другой палове гэтага дню адбудзецца заключная частка зьлёту—вечар трох пакаленьняў. На гэтым вечары будуць абраны дэлегаты на Ўсесаюзны зьлёт піонэраў. Будуць наладжаны ўспаміны старых бальшавікоў аб падпольнай рабоце і выступленьне сэкратара ЦК ЛКСМБ. Будзе прыняты наказ дзяцей да грамадзкасьці і маніфэст да дзяцей працоўных БССР, і наказ дэлегатам на Ўсесаюзны зьлёт. У заключэньне будзе паказана кінохроніка аб зьлёце.

Раніцою на 6 дзень 16 жніўня—210 дэлегатаў Беларусі выедуць на першы Ўсесаюзны зьлёт піонэраў. Менскія піонэры наладзяць ім урачыстыя провады.

---

З ь м е с т:



**Рэдколегія: Баліцкі А., Буклей В., Гарбуз П., Маур Я., Якімовіч А.** **Адказны рэдактар Гарбуз П.**

Год выданьня 5-ты.

Да змаганьня за справу працоўных—будзь гатоў!

УМОВЫ ПАДПІСКІ:
На 1 м-ц 20 к.
„ 3 м-цы 60 к.
„ 6 м-цаў 1 р. 20 к.

# Беларускі Піонэр

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ, ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР

№ 15 ЖНІВЕНЬ 1929 г.

# ПРЫВІТАНЬНІ ЎСЕБЕЛАРУСКАМУ ЗЬЛЁТУ ПІОНЭРАЎ.

## ГАНАРОВА НЯСЕЦЕ СЬЦЯГ ЛЕНІНІЗМУ!

Юнай зьмене, малодшым нашым братом і саратнікам у барацьбе за лепшую будучыну, ад рабочай, батрацкай, бядняцка-серадняцкай, сялянскай моладзі, організаванай у Ленінскі Комсамол, ад яго Цэнтральнага Камітэту — Вам, будаўнікам будучыны — шчырае комсамольскае прывітаньне!

Ленінскі Комсамол упэўнен, што Вы і надалей рука аб руку, плячо з плячом сумесна з комсамолам і Комуністычнай Партыяй—пад іх непасрэдным кіраўніцтвам, ганарова будзеце несьці сьцяг ленінізму ўперад і будзеце найлепшымі барацьбітамі за соцыялізм.

Жадаем Вам найлепшых посьпехаў у рабоце па комуністычнаму выхаваньню шырокіх колаў неорганізаванай дзетвары.

Будзьце-ж гатовы заўсёды змагацца за справу рабочае клясы.

Няхай жыве 1-шы Ўсебеларускі Зьлёт юных Ленінцаў!

Няхай жыве сталёвае кіраўніцтва Комсамолу і Партыі!

ЦК ЛКСМБ.

## ВЫХАВАЦЬ УПАРТЫХ ЛЕНІНЦАЎ!

Вітаю першы Ўсебеларускі зьлёт піонэраў і ў твары зьлёту ўсю нашу працоўную моладзь. Жадаю,

каб зьлёт дапамог піонэрыі ахапіць сваім уплывам усіх дзяцей працоўных;

каб савецкая грамадзкасьць яшчэ больш зацікавілася працай сярод дзяцей,

і каб пры дапамозе ўсёй савецкай грамадзкасьці мы ўдасканалілі справу выхаваньня з нашых дзяцей упартых ленінцаў—барацьбітоў за перамогу комунізму.

Няхай жыве Ўсебеларускі піонэрскі зьлёт!

Няхай жыве кіраўнік у барацьбе за комунізм—Комуністычная Партыя!

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР *А. Чарвякоў.*

## „БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР“ ЧАКАЕ АД ВАС БОЛЬШАЙ УВАГІ.

*Актыўным дзяткорам і ўсім удзельнікам зьлёту—шчырае прывітаньне ад іх часопісі „Беларускі Піонэр“!*

*Часопісь ня можа стаць масавай дзіцячай часопісьсю, ня можа дапамагаць у выхаваньні юных Ленінцаў без вашага штодзеннага удзелу, без вашай дапамогі ёй. А гэта дапамога—пашырэньне часопісі ў масах дзяцей, прысылка сваіх допісаў і інш. „Беларускі Піонэр“ чакае да сябе ад усяе дзетвары і асабліва лепшых прадстаўнікоў яе—зьлетаўцаў, большай увагі. „Б. П.“ павінен стаць баявым органам, першым памоцнікам дзяцей у іх працы.*

*Дапамагчы нам выправіць недахопы, даць тысячы корэспадэнтаў і дзесяткі тысяч падпішчыкаў—справа зьлету.*

*Рэдакцыя „Беларускі Піонэр“.*



# ТРЫ ЗЬЛЁТЫ.

Упяршыню, у Маскве, з 15 па 24 жнівеня, адбудзецца Ўсесаюзны зьлёт піонэраў, які будзе мець міжнароднае значэньне. Гэты зьлёт зьявіцца аглядам дасягненьняў піонэрскага руху. А так, як яго наведаюць і замежныя дзіцячыя дэлегацыі, дык наш зьлёт, акрамя замацаваньня сувязі дзяцей народаў нашага Саюзу,—яшчэ замацуе і сувязь іх з дзецьмі Заходне-эўрапэйскага пролетарыяту.

Амаль адначасова са зьлётам піонэраў у Маскве, будзе зьлёт „бой-скаутаў"—у Англіі, соцыял-дэмократычнай моладзі у Аўстрыі і „Чырвоных сокалаў"—у Вене. Да гэтых двух зьездаў уважліва і старанна рыхтуюцца, імкнучыся правесьці іх пад сходнымі з намі лёзунгамі,—„братэрства дзяцей народаў сьвету". Урады і буржуазныя організацыі—фактычна кіраўнікі зьездаў,—распрацоўваюць програмы работ гэтых зьездаў, якія зводзяцца да таго, каб пад прыкрыцьцем гульняў і забаў (да рэчы, распрацаваных афіцэрамі генэральных штабаў) правесьці мілітарысцкую пропаганду і вайсковае абучэньне падрастаючага пакаленьня. У лік „гульняў" уключаны такога роду заняткі, як, напрыклад, пабудова мастоў, абучэньне фортыфікацыйным пабудовам, скокі на вастрыёх шабель і г. д.

Скауты—гэта буржуазная дзіцячая організацыя.

Бой-скауцкі рух зьяўляецца ўжо пэўнай зброяй у руках буржуазіі. Стоячы пад пагрозай паўстаньняў і хваляваньняў у сваіх колёніях, ангельская буржуазія ўзмацнёна падрыхтоўвае бой-скауцкія організацыі, імкнучыся адцягнуць падрастаючае пакаленьне ад удзелу ў рэволюцыйным руху.

З другога боку, гэтыя організацыі ў часе імпэрыялістычнай вайны як у Англіі, так і ў Амэрыцы, зьяўляліся рэзэрвуарам для папаўненьня арміі і флётаў, а ў звычайнае „мірнае" становішча пастаўлялі актыўных штрэйкбрэхераў амаль ва ўсіх шматлікіх конфліктах, забастоўках працы з капіталам.

У Вене зьбярэцца юнацкая і дзіцячая меншавіцкая організацыя.

Соцыял-дэмократычныя організатары зьлёту ў Аўстрыі, гэта—соцыял-здраднікі, якія ў свой час агітавалі за ўступленьне юнацтва ў шэрагі барацьбітоў за інтэрнацыянал капіталістых. Хаця венскі зьезд праходзіць быццам-бы пад лёзунгамі „вайна вайне", аднак сапраўдная сутнасьць і зьезду і лёзунгу, выказаная соцыял-дэмократычнымі вуснамі, добра вядома пролетарыяту па імпэрыялістычнай вайне. Соцыял-дэмократыя, зьяўляючыся організацыяй буржуазнай дзяржаўнай улады, склікае гэты зьезд, ставячы перад ім тыя-ж задачы і мэты, што ангельская буржуазія: падрыхтоўку да новай вайны і адпаведную ідэолёгічную апрацоўку юнацтва.

Організацыйная падрыхтоўка да юнацкіх зьездаў у абодвых гэтых краінах праводзіцца вельмі інтэнсыўна. Буржуазія ліхарадачна рыхтуе патрэбную ёй сілу, каб скарыстаць яе супроць інтарэсаў рабочай клясы. У той-жа час дзіцячыя комуністычныя організацыі за мяжой праводзяць кампанію супроць зьлётаў у Англіі і Аўстрыі пад лёзунгамі—„Прэч паездкі ў Лёндан і Вену, пасылайце дэлегатаў у Маскву".

На Захадзе зьлёты моладзі з надворнага боку будуць парадамі, а па сутнасьці—падрыхтоўкай да новай вайны. Наш-жа піонэрскі зьлёт па форме будзе сур'ёзьнейшым політычным аглядам нашых дасягненьняў і недахопаў у галіне піонэр-руху, а па сутнасьці—сымболем міжнароднага аб'яднаньня пролетарыяту, замацаваньнем братэрскай сувязі рабочай моладзі, дзетвары ўсяго сьвету.

Гэты зьлёт будзе мець вялізарнае гістарычнае значэньне. Зьлёт прадстаўнікоў падрастаючага пакаленьня першай у сьвеце рабочай дзяржавы, выкрываючы імпэрыялістычную работу юнацкіх зьездаў буржуазных краін, адначасова сваёй магутнасьцю, грандыёзнасьцю і згуртаванасьцю прадэманструе жалезную солідарнасьць міжнароднага пролетарскага маладняка.



*Лягер нямецкіх піонэраў імя Варашылава.*

# ЗЬЛЁТ МАЛАДЫХ ЛЕНІНЦАЎ

## Гаварылі вуліцы,

што сьвята сёньня ў Койданаве. Разьвіваліся чырвоныя сьцягі. Лёзунгі запрашалі: „Дабро пажалаваць“. Двухтысячны натоўп— рабочыя і сяляне, чырвонаармейцы-пагранічнікі—усе прышлі вітаць сваю зьмену. Бязупынна



грае аркэстар. „Зьлётаўцы“ ідуць на пляц стройнымі шэрагамі—атрадамі. А 8-й гадзіне адчыніўся зьлёт кароценькім 25 хвілінным мітынгам. Потым—вячэра, спэцыяльная дзіцячая кіно-пастаноўка, адпачынак.

## —„Дайце мне зьлётаўца“!

—Вы ня член профсаюзу, вам нельга. У нас не хапае нават членам профсаюзу, рабочым, якіядаўно прасілі, запісаліся, каб узяць іх. Вунь рабачком наш ходзіць надзьмуўшыся, ён запісаўся, а зьлётаўцаў „вольных“ ужо няма—радасна адказваюць сябры штабу на патрабаваньне „даць мне піонэрчыка“.

Вясковых піонэраў на зьлёце ўсяго 183, а дабраахвотных запісаў ад рабочых, служачых, якія жадаюць узяць да сябе маленькіх дэлегатаў—на 270 ч.

Такіх, хто ня ведаў аб піонэрскім зьлёце, у раённым цэнтры—Койданаве—няма. Але-ж у вёсках, сельсаветах іх багата. Павадырка Лагавішчанскага атраду, напрыклад, сказаў піонэрам аб райзьлёце толькі за дзень да яго.

## Другі дзень

Гэта быў падлік працы тысяч дзіцячых рук, якую яны праводзяць у дапамогу партыі па соцыялістычнаму будаўніцтву новай вёскі. Пасьля кароценькага дакладу Райбюро ЮП, тры конфэрэнцыі, па 80—90 чалавек на кожнай, дзеляцца вопытам сваёй вялікае працы. Вось ён: „Мы ў нядзелю на паказальным вучастку садзілі капусту. Старыя казалі, што наша капуста ня вырасьце, пасохне. Але-ж мы яе даглядалі і зараз наша капуста куды лепшая за сялянскую“ (Вільшчына).

— „Куды вы яе дзенеце, як вырасьце“? — цікавіліся дэлегаты.— „Аддадзім беднаце“ — адказалі вільшчынцы.

8 піонэраў Негарэльскага атраду маюць паказальныя гароды і сабралі 10 пудоў попелу. А які атрад не разносіў выбарчых позваў, не дапамагаў пісаць іх у час перавыбараў сельсаветаў? Такіх атрадаў няма. Усе дапамаглі.

— Мы ліквідавалі 35 няпісьменных жанчын, — гаворыць піонэр Койданаўскага атраду,— і тут-жа папраўляе: — навучылі грамаце.

— У вёсцы Мікулічах мы агітавалі за самаабкладаньне, зараз будуецца лазьня,—гавораць Мікуліцкія піонэры.

Аб павадырох, комсамоле гаворыць

## Зоя Даніловіч

з Лагавішчанскага атраду. Павадыр наш, Аляксей Торба, ня ходзіць на зборы, аб зьлёце мы да апошняга дню нічога ня ведалі.

Ісьці разам з намі на зьлёт ён таксама не захацеў. Часопісь „Беларускі Піонэр“ замыкае ў шафе.

— У мяне няма цыркуляру— кажа адзін павадыр—аб вясковай працы. І сапраўды, 7 павадыроў атрадаў на зьлёт ня прышлі, а выправілі адных піонэраў.

## Ня стрымаць

буры воплескаў, радасьці, якая была ў час 30 хвіліннага вечару— справаздачы грамадзкасьці перад дзяцьмі, калі старшыня РВК сказаў, што выканком адчыняе для піонэрскае організацыі раённы клюб „Імя 1-га раённага піонэрзьлёту“.

Райком КСМ прызнаўся, што зусім мала ўвагі зьвяртаў на піонэраў. Зараз гэтага ня будзе.



*Сэкратар ЦВК БССР тав. Хацкевіч сярод піонэраў.*



## Выстаўка

Яна была невялічкая, але колькі ў ёй прыгожасьці, хараства! З чырвонага палатна сьмяецца вышыты простымі белымі ніткамі піонэр з сьцягам, з хустачкі, вышытай такімі-ж ніткамі, паглядае, як жывы, Ленін. А вось модэль самалёту!

У горадзе ёсьць дзесяткі лепшых, але-ж такога, зробленага з чачоткі, з дапамогаю аднае сякеры—няма. Шмат малюнкаў, прыгожых і прымітыўных малюнкаў. Колькі ў дзяцей вёскі захоўваецца здольнасьці, талентаў? Ім патрэбна дапамога, верны шлях.

Спаборніцтвы, экскурсіі, гульні занялі большую палову часу ўсяго зьлёту. Пяці атрадам за лепшую пастаноўку грамадзка-карыснае працы, за лепшыя экспанаты на выстаўцы дадзена 5 прэмій: 1 сьцяг, 3 барабаны і адна бібліотэчка.

### А як рыхтаваліся

Былі і хібы. Райком комсамолу пачаў сур'ёзна рыхтавацца да зьлёту толькі за 2 тыдні, а грамадзкасьць—у апошнія дні. Штаб па правядзеньню зьлёту склалі за тыдзень да зьлёту. Райбюро ЮП у Койданове зусім няма. І трэба сказаць, што адчуваўся зьлёт толькі ў раёне. Вёска аб зьлёце амаль ня ведала. Грамадзкасьць у сельсаветах, ячэйкі КСМ і КП(б)Б увагі дзецям не зьвярталі.

Зьлёт паказаў надзвычайную актыўнасьць дзетвары, узрост грамадзка-палітычнай ролі піонэраў.

Забыты намі вучастак працы—абарона экономічных інтарэсаў дзяцей—пастушкоў, няняк—з асаблівай яскравасьцю падкрэсьліў зьлёт. Ніхто гэтаю працаю не займаецца—ні профсаюзы, ні піонэр-атрады. Пастушок ніколі ня мае гарачае ежы. Ён харчуецца па хатах. Працу сярод батрачат павінны весьці і піонэратрады, і прафсаюзы.

Тая ўвага з боку грамадзкасьці ў раёне, якая была ў часе Койданаўскага піонэр-зьлёту, павінна быць штодзённай.

Кадры, зьмена—павінны быць належна падрыхтаваны.

## Госьці з-за мяжы

Усесаюзны піонэрскі зьлёт—гэта дэманстрацыя братэрскай еднасьці дзіцячых комуністычных організацый усяго сьвету. На Ўсесаюзны і мясцовыя піонэрскія зьлёты з-за мяжы прыехала з Нямеччыны 15 дэлегатаў.

Рыхтуюцца прыехаць да нас: з Ангельшчыны—10 дэлегатаў, з Амэрыкі—6 дэлегатаў, з іх адзін нэгр, з Чэха-Славакіі —6 дэлегатаў, з Францыі—4, з іх адзін бой-скаут, які адмовіўся ехаць на скауцкі зьлёт—„Джэмборы“, з Швэцыі і Нарвегіі па 5 дэлегатаў, з Швэйцарыі 3 дэлегаты і з Манголіі—10. Трэба памятаць, што сваім прыездам дэлегаты з-за мяжы дэманструюць адданасьць справе Саюзу Савецкіх Рэспублік—бацькаўшчыне працоўных усяго сьвету.

## ЗЬЛЁТ У СТАРОБІНЕ

З патрэбнаю ўвагаю аднёсься да скліканьня піонэрскага зьлёту Старобінскі Райком ЛКСМБ. Усе комсамольскія ячэйкі і піонэратрады своечасова атрымалі падрабязныя паказаньні аб тым, як рыхтавацца да зьлёту.

Але нельга гэтага сказаць пра мясцовыя профсаюзы і грамадзкія організацыі. Ня гледзячы на тое, што іх прадстаўнікоў вылучылі ў штаб зьлёту, яны нават не палічылі патрэбным зьявіцца на пасяджэньні штабу. Матар'яльнай дапамогі на правядзеньне піонэр-зьлёту з іх боку ня было ніякае.

Да зьлёту была выпушчана адозва да дзяцей усяго раёну, якая заклікала іх да ўваходу ў шэрагі піонэраў, да паляпшэньня працы піонэрорганізацыі.

Зьлёт адчыніўся вялікім мітынгам, на якім прысутнічала звыш 1000 дзяцей, апроч дарослага насельніцтва. Выступілі прадстаўнікі Райкому КП(б)Б, райкому ЛКСМБ, а таксама і піонэры, якія дзяліліся сваім вопытам працы.

Пасьля мітынгу ўсе яго ўдзельнікі накіраваліся на агляд выстаўкі. Розныя экспонаты, самастойная праца піонэраў, дыяграмы і насьценгазэты атрадаў добра адбівалі становішча і дасягненьні Старобінскай піонэрорганізацыі.

Абед, конфэрэнцыя, гульні, кіно... Так прайшоў першы дзень зьлёту.

Назаўтра быў працяг працы зьлёту. Атрады паказалі свае дасягненьні перад дэлегатамі па фізкультуры, ваенізацыі і інш.

Зьлёт падагуліў усю мінулую працу Старобінскай організацыі і вызначыў яе задачы на далейшы час.

З.

**ЗЬЛЁТ—БАЯВЫ АГЛЯД КОМУНІСТЫЧНАГА ВЫХАВАНЬНЯ ДЗЯЦЕЙ.**



**ПАДРЫХТУЕМ У ПІОНЭРСКІХ АТРАДАХ СТОЙКІХ БАРАЦЬБІТАЎ ЗА СОЦЫЯЛІЗМ.**

# ПІОНЭРСКАЯ ЗЬЛЁТНАЯ

Заве ражок і медзі голас звонкі
Заклік нясе за горы, акіян,—
У Калькуце, Вене, Лёндане, Нью-Ёрку
Гарыць ў грудзёх маскоўская зара.
Адвага, воля ў нас нязломны,
Бо блізка ўжо апошні бой,
І піонэрскія калёны
Ідуць шарэнгай баявой.
Гатовы мы к апошняму удару,
Да перамогі крочым упярод!
Сьцяг чырванее юных комунараў,—
Заве ражок на Ўсесаюзны зьлёт.
Б'е барабан і выклікае з хатаў,
На збор сьпяшаемся з усіх канцоў...
Да барацьбы суровай і упартай—
Будзь, піонэр, заўжды гатоў!
Мы не адны, нас нязьлічона многа...
Палае дзень—гарыць чырвоны сьцяг,
Мы сьмела йдзем ўпярод шырокаю дарогай,
За справу верную нас не ахопіць страх.
Ідзём вясёлаю калёнай,
Ад песень вуліцы зьвіняць
І на сьцягох разгорнутых чырвоных
Наказы Леніна гараць.





*На поле, па снапы!*

ЗА СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЕ СПАБОРНІЦТВА.

## Рыхтуйцеся да васеньняй сяўбы.

Сенажаць ужо скончылі. Дажынаюць жыта. Піонэры разам з ўсімі павінны падагуліць вынікі свае працы ў барацьбе за ўраджай.

Але, калі мы зробім падагульненьне свае працы, то ўбачым, што хоць і была работа, але яшчэ больш яе ўперадзе.

Наш удзел у вясновай сяўбе—гэта толькі пачатак працы. Ня трэба толькі апускаць рукі зноў да вясны.—Трэба бязупынна змагацца за высокі ўраджай, за колектывізацыю, трэба ўвесь час, круглы год.

### ШТУРМ ЗЯМЛІ

Паход за ўраджай працягваем. Толькі з большым запалам, энэргіяй.

Ураджай трэба сабраць з поля,—сухім сабраць. Сабраўшы, ня трэба кідаць яго на позную восень, зіму,—а трэба хутка, зараз-жа ўзяцца за абмалот. Абмалаціўшы, зрабіць падлік: што сабе на сям'ю кінуць, а рэшту—лішкі—у коопэрацыю здаць для рабочых,—за машыны, плугі. Піонэр, ведай аб гэтым ды і бацьку раскажы.

Што-ж рабіць далей? А хіба-ж у нас толькі і сяўбы што вясною?

Шмат зямлі ў нас засяецца пад жыта увосень, а засяваць яе яшчэ больш трэба.

Кўлак будзе супроць павялічэньня засеву жыта.

Мы павінны вясьці барацьбу з гэтай кулацкай агітацыяй і дабівацца таго, каб засявалася жыта як мага болей.

### ЗА КОЛЕКТЫВЫ

Трэба агітаваць піонэру словам і справай. А на Беларусі з мая па кастрычнік 1929 г. павінна організавацца 156 новых колгасаў, якія займуць зямлі ня менш як 24.200 гектараў.

Больш 600 іншых прасьцейшых сельска-гаспадарчых аб'яднаньняў будзе створана за гэты час. Піонэр павінен расказаць бацьку аб карысьці гэтых аб'яднаньняў, угаварыць яго ісьці ў колектыў.

### ЗА ЎРАДЖАЙНАСЬЦЬ

Ня менш як на 7 проц. павінна павялічыцца ўраджайнасьць васеньняга севу ў сялянскіх гаспадарках, на 12 проц. у колгасах і на 20 проц. у саўгасах.

Мы зможам павялічыць на гэтулькі ўраджай жыта, калі ўсе, як адзін, возьмемся за працу, будзем сеяць толькі ачышчаным ды гатунковым насеньнем, калі мы пратруцім насеньне ад галаўні (сажы), будзем сеяць радавымі сеялкамі, скарыстаем пад азіміну попел, гной, штучнае угнаеньне.

### ЗА СПАБОРНІЦТВА

Кожны піонэрскі атрад павінен вызначыць, што канкрэтна ён зробіць у дапамогу васеньняй сяўбе і выклікаць на спаборніцтва другі атрад. Трэба разгарнуць спаборніцтва паміж усімі атрадамі гораду і вёскі.

## Сталёвы конь

Імчыцца ўперад конь сталёвы,
Магутна рэжа дзірваны,
І, як пад час маланка ў хмарах,
Мільгне лямеш ля баразны.

Ірве куп'ё, ірве карэньні,
Кладзе барозны з краю ў край.
Гэй, трактарысты! Едзь адважна
І больш ход каню давай!

Грымі, нясіся, конь сталёвы,
Кідай барозны з краю ў край
І ўсё працоўнае сялянства
У сям'ю магутную яднай!

Дзяткор *Шарапаў Л.*

Аршаншчына.



ВЫВУЧАЙ ПЯЦІГОДКУ

# За колектывы, за трактар!

Нарыс *А. Якімовіча.*

Дасюль яшчэ можна пачуць ад цёмных і трохі гультаяватых людзей, што „бог не дае ўраджаю“... Здохла карова, конь— „гэта бог даў“,—бядуе такі чалавек. У суседа ніва зарадзіла, а ў яго не. Зноў „бог вінаваты“. Або „вочы праклятыя“ ураклі ўраджай ці жывёлу, і яшчэ шмат чаго пачуеш.

Але ці так яно? Аказваецца, ніякі бог тут ні пры чым. Поле родзіць у аднаго селяніна таму, што яно лепш дагледжана, выраблена. Заместа лядашчай драўлянай сошкі і баронкі, поле ўзорана добрым плугам, мякка выбаранавана добрай жалезнай бараною. Ніва засеяна ня сьмецьцем, а чыстым, зерня-ў-зерня, насеньнем; пасеяна ўпору, пры правільным плодазьмене і інш.

Усе такія бязьлічныя прыклады даводзяць, што *магчымасьці паляпшаць* ураджай і ўсю сельскую гаспадарку у нас ёсьць вельмі вялікія.

Але разам з тым, сялянства наша ў асноўнай масе жыве бедна, хлеба свайго ў нашай рэспубліцы не хапае. Продуктаў, сыравіны для нашай прамысловасьці вобмаль...

Запатрабаваньне на сыравіну, на сельска-гаспадарчыя продукты большае, чым ёсьць гэтых вырабаў.

Усё гэта залежыць ад таго, што наша зямля *няправільна скарыстоўваецца, зямлю глумяць людзі.* Пэўна-ж не знарок глумяць зямлю.

Ёсьць розныя прычыны таму, што зямля пакутуе ў сялянскіх руках: няўменьне працаваць, цемната, беднасьць, прывычка працаваць „як бацька і дзед“ працаваў...

Але самая галоўная прычына—гэта царскі лад, які да рэволюцыі ані не клапаціўся ўвесьці паляпшэньне ў сялянскае цёмнае ды беднае жыцьцё. Тое, што за царом сялян прымушалі высяляцца на хутары—гэта яшчэ ня клопат. Бо хутар яшчэ горш абядняе гаспадарку і дзічыць чалавека. Адзін адным селянін на многа не палепшыць сваю гаспадарку, як-бы ён ні стараўся, бо значнае паляпшэньне *прынясе толькі колектыў з яго машыннай сыстэмай.*

Савецкая ўлада, як толькі абмацнела адразу пачала самым рашучым чынам узьнімаць нашу сельскую гаспадарку. Спосабы для росту с. г. у нас узяты самыя спадзейная і самыя неабходныя. *Ня хутарок з сошкаю, а колгас з трактарам!* Такі асноўны спосаб уздыму ўраджайнасьці і наогул багацьця, якое вытвараецца ў сельскай гаспадарцы.

Савецкая ўлада нядаўна зацьвердзіла *пяцігодку.* Што такое пяцігодка, мы ўжо бегла тлумачылі ў мінулым нумары нашай часопісі.

Што-ж у асноўным намячае пяцігодка для сельскай гаспадаркі?

## УПАРАДКАВАЦЬ ЗЯМЛЮ.

Цяпер у кожнай вёсцы можна пачуць скаргі, што мала зямлі, няма на чым разгарнуцца. Аднак гэта ня зусім правільныя скаргі. Зямлі ў Беларусі *ня так і мала,* лепш сказаць—„малавата“. Бяда ў тым, што зямля не ўпарадкавана, многа яе прападае бяз толку. Чалавек яшчэ сам не знайшоў свае зямлі, хоць зямля і тут-жа пад носам. Некалі даводзілася чуць мне такі анэкдот, што ў аднаго чалавека прапала зямля. Гэты чалавек пашоў рабіць на сваю зямлю. Прышоў, распрануўся і разаслаў на зямлі пальто. А калі сабраўся нешта рабіць, дык аказалася, што ня можа знайсьці свае зямлі. Шукаў, шукаў адрокся. Аж потым, калі чалавек падняў пальто, каб ісьці дамоў, ён убачыў сваю зямлю. Зямля схавалася пад пальто.

Нерастаропнасьць гэтага анэкдотнага чалавека яшчэ можна апраўдаць. Але як апраўдаць нашу нерастаропнасьць, што мы губляем тысячы гектараў зямлі?




*На карце адзначана, дзе будзе праводзіцца асушка балот.*

У Беларусі ўсяе зямлі *12.551,7* тысяч гектараў.

А скарыстоўваецца належным чынам пад пасевы толькі *5.851,1* тысяч гектараў.

Рэшта зямлі пад лесам (25%), сенажацямі і няўдобішчы. Але-ж балоты, лес і няўдобішчы—гэта яшчэ не бяда. Іх пры жаданьні можна вызваліць ад дарэмнага пуставаньня і прывесьці ў парадак, *зрабіць з пустэчы ўрадлівае поле.*

Ёсьць такія балоты, якія ніякай карысьці не даюць. Калі іх асушыць—будзем мець добрую сенажаць, а то і поле. Ёсьць многа і такіх лясоў, з якіх карысьці таксама ніякай: расьце дзе-небудзь на дзесяціне ў балоце каржакаватае дрэва і гэта лічыцца лесам. Не, такіх лясоў нам ня трэба: або добры лес або добрае поле.

Такім чынам, тысячы гектараў новай зямлі можа прыбавіцца ў Беларусі толькі ад няўдобішчаў, дрэнных лясоў і балот.

2.660 тысяч гектараў зямлі ў нас знаходзіцца забалочанай. Усю гэту зямлю трэба асушыць. Дагэтуль асушана толькі 680 тысяч гектараў.

За пяцігодку павінна быць асушана 540 тысяч гектараў. Дзяржава будзе адпускаць патрэбны крэдыт насельніцтву для гэтай работы. Апрача таго многа будзе асушана балот за сродкі дзяржавы (для саўгасаў на праважданьне вадастокаў, ачыстку рэк і г.д.).

Трэба толькі організаваць усё працоўнае насельніцтва для гэтай вялікай работы *за вызваленьне зямлі.*

Але адшуканьнем зямлі яшчэ не канчаецца работа. У нас і тая зямля, якая ўжо ў рабоце, неяк знаходзіцца бяз толку.

Цяпер усюды праходзіць землеўпарадкаваньне. Нашы вёскі пераходзяць на пасёлкі, організуюць колгасы. Зямля *ўразаецца ў заможных гаспадарках і дабаўляецца бяднейшым.* Апрача таго, пры землеўпарадкаваньні для *бяднейшых адпускаецца зямля з мясцовых запасных фондаў.*

Усё гэта работа вялікага размаху. Гэта цэлая рэконструкцыя, як кажуць вучоныя (організацыя жыцьця на новых асновах). І вось пяцігодка ставіць перад сабой *задачу поўнага земляўпарадкаваньня.*

Да 300 тысяч сялян мяркуецца высяліць у іншыя мясцовасьці Саюзу, дзе ёсьць лішкі зямлі.

Усе гэтыя мерапрыемствы павінны зрабіць лад у сельскай гаспадарцы, *залажыць моцны фундамант для яе росквіту.*

Пасялковая сыстэма землякарыстаньня сама па сабе выгадна для вядзеньня гаспадаркі: можна гуртам злажыцца і набыць патрэбныя машыны для работы, зямля ўся зьбіраецца „пад хату", бліжай і ў большых кавалках. Апрача таго, *ад пасёлка лёгка перайсьці і да колгасу*—самай лепшай формы землякарыстаньня.

Колгасы сярод насельніцтва зававалі не малы аўтарытэт. Яны растуць з кожным днём. За адзін толькі мінулы год у нас *стварылася 553 колгасы.*

А да канца пяцігодкі ўжо *16% усёй пасеўнай плошчы будзе пад колгасамі.*

З 994 колгасаў мы дарасьцём у 1933 г. да *4561.*

Так будзе пашырацца *соцыялістычны вучастак* сельскай гаспадаркі.

## 45 проц.

Зямля ані ня горшая і ня лепшая за якую-небудзь жывёлу, за чалавека. Не кармі каня—везьці ня будзе. Таксама і зямля. Запусьці яе, ня дай гною (і натуральнага і штучнага), зямля прапашчая. Заграніцай у многіх культурных дзяржавах людзі маюць вельмі мала зямлі, але карысьць з яе атрымліваюць у шмат разоў большую за нашага селяніна.

Курс пяцігодкі ўзяты на тое, каб павялічыць прадукцыю сельскай гаспадаркі ўвогуле на *45%.* У колгасах і саўгасах трэба павялічыць ураджай аж да 70%, бо там, *пры машыннай і лепш арганізаванай сыстэме земляўпарадкаваньня*, гэта больш даступна, чым у *дробных* сялянскіх гаспадарках.

Але падняць ураджай амаль напалавіну ды за такі кароткі час—гэта справа не такая лёгкая. Тут ужо не работа соцень, а *мільёнаў.* Калі гэтыя мільёны добра ўцямяць сабе ўсю патрэбнасьць такой работы, ды энэргічна возьмуцца, дык пэўна-ж 45% нават і мала будзе.

Дзяржава з свайго боку ўсімі мерамі будзе садзейнічаць, каб вызначаны плян уздыму ўраджайнасьці не застаўся пустым гукам.

За пяцігодку *палавіна нашай зямлі павінна перайсьці на шматпольле.*

— Сеяць больш лубіну. Маецца на мэце павялічыць лубінізацыю зямлі амаль ня ў 10 разоў.

— Выпрацоўваць больш на заводах штучных угнаеньняў (супэрфосфат, томасаў шлак і інш.). Гэтыя ўгнаеньні трэба пашырыць ня менш, як на адну трэцюю частку усёе зямлі.

Потым вапна, попел, ачыстка насеньня, сяўба машынамі, пасеў добрым, гатунковым насеньнем—усё гэта, калі яго будуць ужываць, дасьць у агульнай суме значнае павялічэньне ураджаю на нашых землях.

## За машыну

У Беларусі дагэтуль ёсьць 17% сох. Праўда, быў час, калі ўсе землеробы псавалі зямлю сохамі. Але гэта было даўней, калі людзей было мала, а зямлі колькі хочаш. Тады і псаваць яе ня шкода было. Цяпер з кожным годам зямля зьмяншаецца ў параўнаньні з ростам людзей. Зямлю *трэба шанаваць,* трэба ўрабляць яе так, каб кожны *малюсенькі кавалачак даваў вялікую карысьць.*

Даўно даведзена на практыцы, што машынная апрацоўка зямлі і таней і лепш.

Мы будуем у сваёй краіне соцыялізм, а гэтай справы сахою не пабудуеш. Вось дзеля гэтага дзяржава бярэ рашучы курс на тое, каб *замяняць саху на трактар,* сявеньку—на сеялку, касу—на касілку і г. д.

Якім чынам гэта можна зрабіць, калі ў нас яшчэ ёсьць *800 тысяч дробных гаспадарак?*

Адзіны выхад у гуртаваньні для набыцьця машын. Такія гуртаваньні – машынныя таварыствы—вельмі даступная форма для кожнага пасёлка для кожнай вёскі. Усялякія палёгкі—крэдыт—дзяржава заўсёды адпусьціць кожнаму такому таварыству.



*Пры дапамозе трактара і патрэбных дадатковых прыладаў можна выконваць усялякую с.-г. работу: араць, малаціць, рэзаць сечку і г. д.*

36 проц. пахаці мае быць уроблена машынным спосабам к канцу пяцігодкі. Для гэтага хопіць і сіл, і сродкаў. Патрэбна толькі жаданьне і энэргія саміх мас землеробаў.

Апрача такой машынізацыі, нашыя дробныя гаспадаркі будуць расьці і ў другой часьці. Тысячы новых малатарняў, жалезных восяў, сячкарняў, веялак, сартовак *рушыць пролетарскі горад працоўнай вёсцы па* даступнай і выгаднай цане. *Палепшаныя с.-г. прылады дашчэнту даб'юць драўляныя сохі ды бароны.*

Наша мэта—электрызаваць сельскую гаспадарку, прымусіць працаваць такога няўтомнага волата, як электрычнасьць. Такія электрычныя ўстаноўкі і пачнуцца ўводзіцца ў буйных гаспадарках ужо ў гэтай пяцігодцы.

Для таго, каб продукты сельскай гаспадаркі больш прыносілі карысьці, іх трэба перарабляць на знарочыстых заводах. Інакш кажучы, *сельскую гаспадарку трэба індустрыялізаваць.* Беларусь павінна апавіцца сеткамі заводаў, фабрык, якія будуць разумна выкарыстоўваць і перарабляць земныя багацьці.

Звыш 38 мільёнаў рублёў мяркуецца патраціць за пяцігодку на індустрыялізацыю сельскай гаспадаркі.

## Паможам пяцігодцы

Піонэрская організацыя, як і заўсёды, павінна рашуча *змагацца за правядзеньне ў жыцьцё* пяцігодкі. Маладое пакаленьне здолее шмат у чым дапамагчы нашай комуністычнай партыі і Савецкай уладзе правесьці пяцігодку.

Што ў асноўным павінны рабіць піонэры для пяцігодку?

1. Памагаць комсамолу ўва ўсёй яго рабоце, накіраванай на тое, каб колектывізаваць вёску і павялічыць ураджай.

2. Разгарнуць шырока дасьледчую справу на сваіх гародах, у сваіх гаспадарках. Падаць жывы прыклад свайму бацьку і суседу таго, як можна дабіцца вялікага ўраджаю, як трэба любіць сваю працу і шанаваць зямлю, а ня глуміць яе.

3. Дзяржава выдае масу популярных кніжак для сялян. Піонэрам трэба замалада падкаваць сябе неабходнымі ведамі, трэба, каб піонэры рознымі спосабамі прасунулі кніжку кожнаму селяніну, прачыталі яму і нават растлумачылі.

4. Змагацца за тое, каб наша школа—і пачатковая, і сямігодка—сапраўды сталі школамі з сельска-гаспадарчым ухілам, каб яны выхоўвалі добрых гаспадароў—праваднікоў у жыцьцё гэтай і наступных пяцігодак.

# НАША ГАЗЭТА

№ 15 Насьценгазэта чытачоў „Бел. Піонэра“ № 15


## БАТРАЧАТАМ—УВАГА

Тысячы батрачат—няняк, пастушкоў,—раскінуты па Савецкай Беларусі. Савецкім урадам выданы законы, якія абараняюць іх правы. Але-ж ці выконваюць гаспадары гэтыя законы? Не, і вельмі часта—не.

Чаму? Таму, што батрачаты маласьвядомыя, яны маўчаць, а піонэрскія атрады ў большасьці не абараняюць іх, ня ведаюць законаў аб працы батрачат і лічаць, што гэта—ня іх справа.

Допісы, якія сёньня мы зьмяшчаем, сьведчаць аб эксплёатацыі батрачат і бязьдзеяньні піонэраў.

Абарону батрачат павінны ўцяць на сябе піонэрскія атрады і зьвеньні. А па закону батрачаты і нянькі маюць наступныя правы:

Між гаспадаром і батрачатамі абавязкова павінны быць складзены працоўныя ўмовы. У батрачаты наймаюцца дзеці з 14 год, і толькі на зусім лёгкую працу—з 12 год.

Працоўны дзень батрачат павінен быць ня больш 8 гадзін, а ў кулацкіх гаспадарках—ня больш 6 гадзін. Ва ўсе сьвяты і адзін раз у тыдзень у выхадны дзень батрачаты асланяюцца ад працы. Яны не павінны выконваць непасільную, ці надта шкодную для іх організму працу.

Батрачаты павінны харчавацца разам з сям'ёю—мець аднолькавую ежу. У выпадку хваробы, яны павінны быць забясьпечаны харчамі і заробкам з боку гаспадара, а калі застрахаваны, дык атрымліваюць заробак ад страхкасы.

Аб усіх гэтых правох батрачат нам падрабязьней раскажа закон, які ёсьць у кожным сельсавеце, хаце-чытальні ці профсаюзе сельска-гаспадарчых і лясных рабочых. Але-ж наша бяда і віна, што гэты закон яшчэ як сьлед ня выконваецца.

Батрачаты чакаюць нашай дапамогі. Шмат батрачат няпісьменных, маласьвядомых. Трэба дапамагчы ім навучыцца, расказаць аб іх правох. Каб іх не эксплёатавалі гаспадары.

Напомніць гаспадаром аб правох батрачат, заклікаць іх да парадку, узяць батрачат пад сваю моцную абарону,—галоўнейшая задача піонэраў.

ПІОНЭРСКІЯ АТРАДЫ! УСЁ ПРАВЕРЦЕ СВАЮ ПРАЦУ З БАТРАЧАТАМІ!

### Выхад у вёску

*(Дуброўна, Аршаншчына)*

*Мы ўсім лягерам вышлі ў вёску Цылевічы. Там мы з вясковымі піонэрамі правялі гутарку аб піонэрскім зьлёце і, нарэшце, было спорт-выступленьне і сьпевы.*

В. Цыральсон

### ХТО АБАРОНІЦЬ?

15 гадовы батрак, Копчык Ц., з Рудзенску працуе ў грамадзянкі Ляўко ў дзень 16 гадзін. Яго прымушаюць працаваць адначасова на двух гаспадарках, дзе маецца каля 16 дзесяцін зямлі. Рудзенскія піонэры аб гэтым ведаюць, але-ж нічога не зрабілі, каб вызваліць батрака з-пад кулацкага ўціску, каб палегчыць яго працу. Райком Саюзу Сельска-гаспадарчых і Лясных рабочых, пад носам якога ўсё гэта робіцца, таксама не абараняе батрака.

Батраком Копчык працуе ўжо ня першы год, але-ж у Саюз яго чамусьці ня прымаюць.

Рудзенскія піонэры!—Хто павінен узяць батрака Копчыка пад абарону?

## ДЗЕ ДРЭННА ПРАЦУЮЦЬ

### Не ў атрад, а да дзяўчат

Як толькі арганізаваўся ў вёсцы Каровіна (Магілеўшчына) атрад, дык павадыр яго некуды паехаў. Атрад застаўся без кіраўніка. Новым павадыром атраду, камсамольцам Шарабурыным, піонэры спачатку былі надта здаволены. Але-ж гэта было толькі некалькі дзён. Зараз заместа таго, каб працаваць у атрадзе, Шарабурын пра яго забыўся і займаецца толькі „ухажорствам“ за дзяўчатамі. А працы ў атрадзе няма і ячэйка маўчыць. Ці-ж добра так?



### Хто гультай?

Гультаі—павадыры нашага Хвядосаўскага атраду, Якіменка і Мысьлянцоў. За ўвесь 1929 год яны толькі тры разы зьявіліся і правялі збор атраду. Піонэрам прыходзіцца працаваць самім бяз усякага кіраўніцтва і дапамогі з боку павадыроў. Чаму ячэйка КСМ ня прымае да гэтых кам-аў ніякіх мер?

Дзяткар Сьвярчок.

Аршаншчына.

Атрады! Хто з вас правёў сельскі сход батрачак і як ён прайшоў?

### ЧАРЭНКА—ЭКСПЛЁАТАТАР

Цяжка жыць сіраце... А Паўлюк Барашка—сірата. Бацькі ня мае. Матка ёсьць, але яна адвяла Паўлюка ў пастухі, бо трэба-ж зарабіць на хлеб. Гаспадарка ў яе невялічкая—кароўка адна. І пашоў Паўлюк у пастухі к самому старшыні сельсавету, Хвядосу Чарэнцы. Ну, што-ж—старшыня законы ведае, у яго мусіць быць жывецца ня дрэнна? Але не, якраз наадварот. П. Барашка працуе ўвесь дзень, вольнага дня ў тыдзень ня мае, ня мае нават вольнае хвіліны. Школу наведваць, яшчэ вясною, яму старшыня таксама не дазволіў, а дзе-ж піонэратрад?

### А ВЫ, ДАПАМАГЛІ?

Наш Дубровенскі гарадзкі лягер ЮП дапамог саўгасу Станіслава прыбраць сена, зрабілі ім баскетбольную і валейбольную пляцоўку і ў іх на вечары організавалі спорт-выступленьне. Напішэце, чым дапамаглі вы саўгасам і беднаце.

В. Ц.

Аршаншчына.

### Памаглі пагарэльцам

У вёсцы Раўнапольле, Сьмілавіцкага р-ну, у чэрвені м-цы згарэла 49 двароў.

Пагарэльцам трэба дапамога... Наша Рудзенская школа і піонэратрад таксама не засталіся з боку ад гэтага. Паставілі спэктакль і сабраныя ад яго 25 рублёў аддалі на дапамогу пагарэльцам.

Г. Фрыд.

### АКТЫЎНЫ ЗБОРШЧЫК

*(в. Гурэц, Меншчына)*

Наш атрад узяўся зьбіраць сярод сялян грошы на самалёт.

Асабліва актыўна сабіраў грошы піонэр Казакоў Уладзік. Ён па капейках сабраў каля трох рублёў. Для нашага атраду гэта дасягненьне.

Сымон.



*Піонэры вывучаюць сельска-гаспадарчыя машыны.*

## Лес гарыць

(Рудзенскі лягер)

*Тры тыдні прайшло з таго часу, як тут паказалася першая палатка. Мы адчувалі сябе ў лягеры надта добра—паздаравелі, пашыралі свае веды. Дапамагалі сялянам працаваць на полі, у вольны час гулялі ў баскетбол, футбол ды інш. гульні... Аднаго разу ў час абеду кіраўнік лягеру перадае павадыру, каб ён вызначыў 10 чалавек пасьля абеду тушыць пажар у лесе. Але калі мы ўчулі словы: „Лес гарыць“, зараз-жа кінулі есьці і ўсе выказалі жаданьне пайсьці тушыць лес. Праз хвіліну ўсе ўжо былі абутыя і лясьнік ледзьве пасьпяваў ісьці за намі... Ячэ здалёку чуваць было пах дыму.*

*Невялічкая група сялян і дачнікаў зялёным гальлём адбівалі агонь, тушылі, адкідалі далёка ў бок сухое гальлё, не давалі агню пашырыцца.*

*Дружна ўсе да аднаго кінуліся мы з бярозавым і хваёвым гальлём дапамагаць сялянам - дабіваць агонь. Каб ня пусьціць яго далей па зямлі, мы выкапалі вузенькую канаўку.*

*Наша энэргічная праца, сумесна з сялянамі, праз кароткі час дала свае вынікі—агонь амаль патух, толькі дзе-ні-дзе дагаралі кусты ды трухлявыя пні.*

*Задаволеныя, з песьнямі вярнуліся ў лягер.*

Г. Фрыд.

Піонэры! Ці рыхтуецеся вы да пачатку навучальнага году?

Дапаможам дзецям беднаты! Ахопім усіх дзяцей працоўных школай.

## АНТЫВАЕННЫ КАРНАВАЛ У МЕНСКУ

НА ЗЬНІМКУ—ЗЬЛЕВА НАПРАВА ПА ПАРАДКУ: 1—„1914 г.“; 2—„АПОШНІ РАСІЙСКІ ЦАР МІКОЛКА-КРЫВАПІЙЦА“; 3—„БАЛЯНС ВАЙНЫ“; 4—„ЗАБЫТЫЯ ГЕНЭРАЛЫ І СТРАЖНІКІ“; 5—„ІНВАЛІДЫ“; 6—„ВАЙНА—ВАЙНЕ“ „ПРАДВЕСЬНЕ КАСТРЫЧНІКА“.









# ЭЛЬКАВЫ ПРЫГОДЫ



Казка *Зьм. Астапенкі.*

Малюнкі *М. Філіповіча.*

### ЭЛЬКА—АКЦЯБРОНАК.

Ярка на панэлі
Каля дому Элі
Сьвецяць ліхтары...
Сьпяць сады і крамы
Залатымі снамі...
Зорачкі ўгары.
Ночкай-начаніцай
Элька не лажыцца
Штосьці доўга спаць.
У руках з газэтай
Ціхай ночкай гэтай
Сеў адпачываць.
Добры Эля хлопчык!
Ён заўсёды сочыць
За жыцьцём быцьцём.
І газэту „Праўду“
Ён чытае заўжды
Ўвечары бацьком.
Вось і гэтай ночкай
Сеў ён у куточку
Ды ня хоча спаць,—
Хоча да канца ён
Пра дзяцей Кітаю
Весткі дачытаць.

### ДУМЫ ЭЛІ.

Сумна стала Эльцы,
Скончыўшы газэты.
„Кепска ім жывецца—
Кітайчаткам гэтым.
Крыўдзяць іх нямала,
Дый бацькоў—таксама.
Краем заўладала
Жорсткая навала“...
Мчацца думкі, скачуць,
Аж стукоча сэрца:
„Вось, каб мне пабачыць,
Як ім там жывецца“!

### ЭЛЬКАВА ПАСТАНОВА.

Прамінула ночка.
Зацьвіло сьвітаньне.
Элька ўстаў сягоньня
Надзвычайна рана.
Падышоў да таты,
Да матулі й дзеда
І сказаў сур'ёзна:
— Я сягоньня еду!

— Што? Куды, сыночак?—
Матка запытала.
—Што ты там надумаў?—
Бацьку сьмешна стала.
Але жвавы Эля—
Акцябронак сьмелы,
Жарты пакідае:
„Еду да Кітаю!
Вы сабе жартуйце,
Ну, а мне рыхтуйце
На дарогу ежу.
З хаты да чыгункі
Падвязе татунька.
Далей сам паеду“.
Колькі было спрэчак!
Але ўсё-ткі рэчы
Элькавы зьвязалі...
З торбачкай-партфэлем
Акцябронак Эля
Едзе да вагзалу.

* * *

—Тру-ту-ту! Тру-ту-ту!
Гром і стук,
Бразг і стук.
Праз лагчыны і загоны
Едуць гулкія вагоны.
Што далей—дык барджэй.
Тах-чах-чах! Тах-чах-чах!
Ну й разгон!
Праз адхон
Мчыцца буйны цягнік...
— Да-га-ні! Да га-ні!—
Ціха крэкча вагон.
Гром і стук.
Стук і звон...
— Ну й разгон!

### ЭЛЬКА ЕДЗЕ Ў КІТАЙ.

У вагоне едзе Эля
З чамаданам
І портфэлем,
Ды з маленькім клункам
рэчаў.

Адзін вечар.
Другі вечар.
Трэці вечар...





Прамінаюцца загоны.
Элі сумна у вагоне.
Ї рашыў пісаць цяпер
Ў „Беларускі Піонэр“.
У часопісь Эля піша,
Мчыцца лёгкае пяро,
А вагоны ход калыша,
Сьвішча шумна паравоз.
Прамінаюць лес зялёны,
Рэчкі, ўзгоркі і палі.
Ї глядзіцца нескончоны
Твар бяскрайнае зямлі.
Раптам—
Стой!
Цягнік спыніўся...
— Эй, таварышы,—мяжа!
Злазьце, мы назад імчымся.
Далей нельга йсьці, на жаль.
Элька вышаў...
Ї памчаўся зноў
Цягнік той на радзіму.
Вось праносяцца і гаснуць
Аганькі вагонаў міма.
За лагчынаю зялёнай
Зьніклі гулкія вагоны.
Элька стаў.
Глядзіць задумна...
Крыху стала яму сумна,
Але сум ён адганяе
Ї... сігае да Кітаю.



### ЭЛЬКА Ў ШАНХАІ.

Паўз белых вуліц
Ля Жоўтай плошчы
Худы й лядашчы
Бяжыць разношчык
Ля белых сьцен.
Сьпякотны поўдзень.
Кварталы ў глянцы
Ї ў вагні.
Сьпяць каля брамаў
Купцы-кітайцы
У цішыні.
А ля панэляў
У хмарах пылу—
Людзкі разгон!
Ймчацца рыкшы,
Аўтомобілі
На ўздагон.
У калясках ценкіх—
Ангелец горды,
Скупы праз край...
З іх, пэўна, кожны
Завецца лёрдам.
Дабра і ласкі
Ў іх не чакай!
Паўз белых вуліц
Ля Жоўтай плошчы
Ангельца рыкша
Вязе, засопшы,
Да гордых сьцен.
Ў квартал далёкі,
У квартал чужацкі,
Каля ракі...
Там шмат ангельцаў
Ї гордых белых,
Там—чужакі.
Там шмат гарматаў
Ї кулямётаў,
Ї вартавых...
На жоўтых рыкшаў,
Супроць галоты
Рыхтуюць іх.
Ймчыцца рыкша.
Ён замарыўся
Ї ў поце ўвесь...
Але ангелец
Ня гэтак мысьліць:
„Хутчэй, хутчэй, гі-эсс“ *)
Якое дзіва,
Якая крыўда,
Які зажым!
Чаму са зброяй
Усе ня выдуць
Адпомсьціць ім?!
Чаму ня стануць
На барыкады
У гэты-ж час?
Чаму ня стануць
Усе ў атрады
Рабочых мас?
Дыміць у бухце
Рад броняносцаў,
Дыміць, дыміць...
Ля іх—гарматы,
Пад іх пагрозай
Шанхай шуміць.
Шумяць заводы,
Гудкі акраін
Гудуць, гудуць...
Завулкі, плошчы
Усяго Шанхаю
Трывогу б'юць.
— „Настане час той,
Ї мы паўстанем!
Настане грозны
Вялікі час“...
Раптам...
На вуліцы звонкай
Шум на хвіліну спыніўся.
Рыкша худы і стамлёны
Стаў... і паваліўся.
Стала самотнай каляска,
Колы ў пяску зажаўцелі,
Ї закрычаў даўгавязы
Ангелец.
— Гэй, гультай,
Падымайся!
Крыкнуў з пагадлівым
Гэстам.

(*Канец у наступным нумары*).

*) Асёл.

# А. П. ЧЭХАЎ



У ліпені месяцы адбылося 25 год з дню сьмерці Антона Паўлавіча Чэхава. Нарадзіўся ён у 1860 г. у г. Таганрозе ў сям'і дробнага гандляра. Скончыў Мэдычны Факультэт Маскоўскага Унівэрсытэту.

А. П. Чэхаў надзвычайна праўдзіва, мастацкі адбіў тагачаснае жыцьцё. Сялянства ў той час было цёмнае і забітае, рабочая кляса толькі нараджалася. Царская ўлада жорстка распраўлялася з рэвалюцыянэрамі,—вешала іх, забараняла ўсякую вольную думку аб лепшай будучыне. Добра жылося толькі чыноўнікам ды памешчыкам.

Але-ж творчасьць А. П. Чэхава была толькі мастацкім адбіткам—мірным пратэстам супроць тагачаснасьці, ён не заклікаў да барацьбы, да змаганьня.

Ніжэй мы зьмяшчаем яго апавяданьне „Бяглец".

## БЯГЛЕЦ

Гэта была доўгая гісторыя.

Спачатку Пашка ішоў з маткаю пад дажджом то па скошаным полі, то па лясных сьцежках, дзе да яго ботаў прыліпала жоўтае лісьцё, ішоў да таго часу, пакуль не разьвіднілася. Пасьля ён гадзіны дзьве стаяў у цёмных сенцах і чакаў, калі адчыняць дзьверы. У сенцах было ня так холадна і вільготна, як на дварэ, але вецер і сюды заносіў дажджавыя пырскі. Калі сенцы патроху перапоўніліся людзьмі, прыціснуты Пашка прытуліўся тварам да нечага кажуха, ад якога моцна пахла салёнаю рыбаю, і задрамаў. Але вось ляснуў засовец, адчыніліся дзьверы, і Пашка з маткаю ўвайшоў у прыёмную. Тут зноў прышлося доўга чакаць. Усе хворыя сядзелі на лаўках, не варушыліся і маўчалі. Пашка аглядаў іх і таксама маўчаў, хаця бачыў шмат жудаснага і сьмешнага. Раз толькі, калі ў прыёмную, падскакваючы на аднэй назе, увайшоў нейкі хлопец, Пашку самому захацелася таксама падскакваць. Ён штурхануў матку пад локаць, пырхнуў у рукаў і сказаў.

— Мама, глядзі: верабей!

— Маўчы, дзіцятка, маўчы!— сказала матка.

У маленькім вакенцы зьявіўся заспаны фэльчар.

— Падыходзьце запісвацца!— прагаварыў ён.

Усе, у тым ліку і сьмешны хлопец, які падскакваў, пацягнуліся да ваконца. У кожнага фэльчар пытаў імя, па бацьку і прозьвішча, узрост, дзе жыве, ці даўно хворы і іншае. З адказаў сваёй маткі Пашка даведаўся, што імя яго ня Пашка, а Павал Галакціёнаў, што яму сем год, што ён няпісьменны і хворы ад самага вялікадня.

Хутка пасьля запісваньня цераз прыёмную прайшоў доктар у белым фартусе і падперазаны скарачом. Праходзячы каля падскакваўшага хлопца, ён пацяснуў плячыма і сказаў пявучым голасам:

— Ну, і дурань! Што-ж, мо' ня дурань? Я казаў табе прыйсьці ў панядзелак, а ты прыходзіш у пятніцу. Па мне хоць саўсім ня прыходзь, але-ж дурань ты гэтакі, нага прападзе!

Хлопец зрабіў жаласьлівы твар, як быццам зьбіраўся прасіць ласку, заморгаў і сказаў:

— Зрабеце такую ласку, Іван Мікалаевіч?

— Тут няма чаго, —Іван Мікалаевіч!— передражніў доктар. Сказаў—у панядзелак і трэба слухаць. Дурань, вось і ўсё...

Пачаўся прыём. Доктар сядзеў у сваім пакойчыку і выклікаў хворых па чарзе. Адтуль, з пакойчыку чуліся то праразьлівыя галасы, то дзіцячы плач, то злосныя ўсклікі доктара:

— Ну, чаго равеш? Рэжу я цябе ці што? Сядзі ціха!

Настала чарга Пашкі.

— Павал Галакціёнаў!—клікнуў доктар



*Дзядуля з кіслымі вачыма ўвесь час кашляў...*

Маці абамлела, быццам не чакала гэтага выкліку, і, узяўшы Пашку за руку, пашла з ім у пакойчык. Доктар сядзеў каля стала і махінальна стукаў па тоўстай кнізе малаточкам.

— Што баліць?—спытаў ён, ня гледзячы на ўвайшоўшых.

— У хлопчыка болька на локці, родненькі,—адказала маці.

— Здымі ў яго вопратку!

Пашка, крэхчучы, разьвязаў на шыі хустку, пасьля абцёр рукавом нос і пачаў, не сьпяшаючыся, скідаць кажушок.

— Баба, ня ў госьці-ж прышла!—сказаў злосна доктар.— Чаго марудзіш? Ты-ж у мяне ні адна тут!

Пашка пасьпешна скінуў кажушок на зямлю і з дапамогаю маткі зьняў сарочку. Доктар абыякава паглядзеў на яго і паляскаў яго па голым жываце.

— Важнае, брат, Пашка, ты пуза выгадаваў,—сказаў ён і ўздыхнуў.—Ну, паказвай свой локаць.

Пашка скоса паглядзеў на міску з крывянымі памыямі, паглядзеў на дакторскі фартух і заплакаў.

— Ме-е, — перадражніў доктар.—Жаніць пара свавольніка, а ён плача. Бессаромны.

Стараючыся ня плакаць, Пашка паглядзеў на матку і ў гэтым яго зірку была напісана просьба:—„Ты-ж не кажы толькі дома, што я ў бальніцы плакаў“.

Доктар агледзеў яго локаць, паціснуў, уздыхнуў, цмокнуў губамі, пасьля зноў пацінуў.

— Біць цябе, баба, трэба, ды няма каму,—сказаў ён.—Чаму ты раней яго ня прыводзіла. Рука за німа-што загінула. Паглядзі вось, гэта-ж сустаў яму баліць!

— Вам лепш ведаць, родненькі...—уздыхнула баба.

— Родненькі... Згнаіла дзіцяці руку, а цяпер і родненькі. Што ён за работнік будзе бяз рукі. Увесь век з ім будзеш цацкацца. Нябось, як у самой прышчык на носе ўсхопіцца, дык зараз-жа ў бальніцу бяжыш, а дзіцяці паўгода руку гнаіла. Усе вы такія!

Доктар закурыў папяроску. Пакуль папяроска дымела ён выгарваў бабе і, качаючы галавою ў тахт песьні, якую сьпяваў у думках, усё думаў аб нечым. Голы Пашка стаяў перад ім, слухаў і глядзеў на дым. Калі-ж папяроса патухла, доктар схамянуўся і загаварыў тонам ніжэй:

— Ну, слухай, баба. Ніякая мазь і кроплі тут не дапамогуць. Трэба яго ў бальніцы пакінуць.

— Калі трэба, родненькі, дык чаму-ж не пакінуць.

— Мы яму апэрацыю зробім. А ты, Пашка, заставайся,—сказаў доктар, хлопаючы Пашку па плячы.— Хай маці едзе, а мы з табою, брат, тут застанёмся. У мяне, брат добра, прыгожа. Мы з табою, Пашка, вось як управімся са ўсім, чыжыкаў пойдзем лавіць, я табе лісіцу пакажу. У госьці разам паедзем. Га? Хочаш? А маці па цябе заўтра прыедзе! Га?

Пашка паглядзеў на матку.

— Заставайся, сынок,—сказала тая.

— Застаецца, застаецца!—Весела закрычаў доктар.—І гаварыць няма чаго! Я яму жывую лісіцу пакажу! Паедзем разам на кірмаш цукеркі купляць! Мар'я Дзянісаўна, завядзеце яго наверх!

Шырокі станам доктар рад быў кампаніі, як відаць было з усяго. Пашка захацеў паслухацца яго, тым больш, што ад роду ня быў на кірмашы і ахвотна паглядзеў-бы на жывую лісіцу, але як абыйсьціся бязматкі? Падумаўшы трохі, ён парашыў папрасіць доктара пакінуць у бальніцы і матку, але не пасьпеў ён адчыніць рот, як фэльчарыца ўжо вяла яго ўверх па ўсходах.

Ішоў ён і з цікавасьцю глядзеў у бакі. Усходы, падлога і вушакі—усё вагромністае, простае і яркае, было афарбована ў прыгожую жоўтую фарбу і ад усяго ішоў прыемны пах алею. Усюды віселі лямпы, ляжалі на падлозе маты, віднеліся ў сьценах медзяныя краны. Але больш усяго Пашку спадабаўся ложак, на якім яго пасадзілі, і шэрая шурпатая коўдра. Ён намацаў рукамі падушкі і коўдру, агледзеў палату і парашыў, што доктару жывецца ня дрэнна.

Палата была невялікая—у ёй было толькі тры ложкі. Адзін ложак стаяў пусты, другі быў заняты Пашкам, а на трэцім сядзеў нейкі дзядуля з кіслымі вачыма і ўвесь час кашляў і плёваў у карэц. З ложка Пашкі праз дзьверы відаць была частка другой палаты, дзе стаялі два ложкі: на адным спаў нейкі вельмі бледны, худы чалавек з гумовым пузыром на галаве; на другім, распасьцёршы рукі, сядзеў селянін з перавязанай галавой, вельмі падобны на бабу.

Фэльчарыца, пасадзіўшы Пашку, вышла і, трохі счакаўшы, вярнулася назад з ахапкаю адзеньня.

— Гэта табе,—сказала яна.— Адзявайся.

Пашка разьдзеўся і з задавальненьнем пачаў прыбірацца ў новае адзеньне. Надзеўшы сарочку, штаны і шэры халацік, ён самаздаволена паглядзеў на сябе і падумаў, што ў такім убраньні ня дрэнна было-б прагуляцца па



*Ён кінуўся ў суседнюю палату.*

вёсцы. Яго ўяўленьне намалявала, як маці пасылае яго ў гарод пад рэчку нарваць для парасяці капусных лісьцяў; ён ідзе, а хлопчыкі і дзяўчаткі абступілі яго і з зайздрасьцю глядзяць на яго халацік.

У палату ўвайшла сядзелка, трымаючы ў руках дзьве валавя-

ных міскі, ложкі і два кавалкі хлеба. Адну міску яна паставіла перад дзядулям, другую—перад Пашкай.

— Еш!—сказала яна.

Глянуўшы ў міску, Пашка ўбачыў тлустую капусту, а ў капусьце кусок мяса. І зноў падумаў, што доктару жывецца ня дрэнна і што доктар зусім не такі злосны, як ён думаў аб ім спачатку. Доўга ён еў капусту, аблізваючы пасьля кожнага разу лыжку, пасьля, калі апрача мяса ў місцы нічога не засталося, скоса паглядзеў на дзядулю і пазайздросьціў, што той усё яшчэ сёрбае. Уздыхнуўшы, ён пачаў есьці мяса, стараючыся есьці яго як мага даўжэй, але стараньні ніякіх вынікаў не далі: зьнікла і мяса. Застаўся толькі кавалак хлеба. Ня смачна есьці адзін хлеб бяз прыправы, але рабіць ня было чаго. Пашка падумаў і зьеў хлеб. У гэты час увайшла сядзелка з новымі міскамі. На гэты раз у місках было смажанае мяса з картофляю.

— А дзе-ж хлеб?—спытала сядзелка.

Заместа адказу Пашка надзьмуў шчокі і выдыхнуў паветра.

— Чаму ўвесь зьеў?—сказала з дакорам сядзелка.—А з чым-жа ты мяса есьці будзеш?

Яна вышла і прынесла новы кавалак хлеба. Пашка з роду ня еў смажанага мяса і, паспрабаваўшы яго цяпер, знайшоў, што яно вельмі смачнае. Зьнікла яно хутка і пасьля яго застаўся кававак хлеба большы, чым пасьля капусты. Дзядуля, паабедаўшы, захаваў свой хлеб, які застаўся, у столік; Пашка хацеў зрабіць гэтак сама, але падумаў і зьеў свой кавалак.

Пад'еўшы, ён пашоў прагульвацца. У суседняй палаце, апрача тых, якіх ён бачыў праз дзьверы, знаходзілася яшчэ чатыры чалавекі. З іх толькі адзін зьвярнуў на сябе яго ўвагу. Гэта быў высокі, вельмі худы селянін з хмурым валасатым тварам; ён сядзеў на ложку і ўвесь час як маятнік ківаў галавою і махаў праваю рукою. Пашка доўга глядзеў на яго, не адводзячы вачэй. Спачатку мерныя ківаньні селяніна, падобныя на рухі маятніка, здаваліся яму кур'ёзнымі, якія ён рабіў для агульнае пацехі, але калі ён прыглядзеўся ў твар селяніна, яму стала жудасна, і ён зразумеў, што гэты селянін вельмі моцна хворы. Прайшоўшы ў трэцюю палату, ён убачыў двух сялян з цёмначырвонымі тварамі, быццам вымазанымі глінай,—яны спакойна сядзелі на ложках.

— Цётка, чаму яны такія?—спытаў Пашка ў сядзелкі.

— У іх, хлапчанё воспа.

Вярнуўшыся ў сваю палату, Пашка сеў на ложак і пачаў чакаць доктара, каб пайсьці з ім лавіць чыжыкаў, ці ехаць на кірмаш. Але доктар ня прыходзіў. Каля дзьвярэй суседняй палаты мільгануў на хвіліну фэльчар. Ён нагнуўся да таго хворага, у якога на галаве ляжаў мяшок з лёдам і гукнуў:

— Міхайла!

Міхайла спаў і не паварушыўся. Фэльчар махнуў рукою і вышаў. Чакаючы доктара, Пашка аглядаў свайго суседа-дзядулю. Дзядуля, не перастаючы, кашляў і плёваў у карэц; кашаль у яго быў працяжны, скрыпучы. Пашку спадабалася адна асаблівасьць дзядулі: калі ён, кашляючы, удыхаў у сябе паветра, дык у грудзёх яго нешта сьвістала і сьпявала на розныя галасы.



*Ён пахіснуўся і, страціўшы сьвядомасьць, кінуўся на сходкі...*

— Дзед, што гэта цябе сьвішча?—спытаў Пашка.

Дзядуля нічога не адказаў. Пашка пачакаў трохі і спытаў:

— Дзед, а дзе лісіца?

— Якая лісіца?

— Жывая.

— Дзе-ж яна можа быць? У лесе!

Прайшло шмат часу, але доктар усё не зьяўляўся. Сядзелка прынесла гарбату і пасварылася на Пашку за тое, што ён не пакінуў сабе хлеба да гарбаты; прыходзіў яшчэ раз фэльчар будзіць Міхайлу; за вокнамі пасінела, у палатах запалілі агні, а доктар ня прыходзіў. Было ўжо позна ехаць і на кірмаш і лавіць чыжыкаў; Пашка разьлёгся на пасьцелі і пачаў думаць. Успомніў ён цукеркі, абяцаныя доктарам, твар і голас маткі, прыцемкі ў сваёй хаце, печку, буркатлівую бабку Ягораўну... І яму стала раптам сумна і маркотна. Успомніў ён, што заўтра маці прыедзе па яго, усьміхнуўся і заплюшчыў вочы.

Яго разбудзіў шолах. У суседняй палаце нехта хадзіў і гаварыў паціху. Пры цьмяным асьвятленьні газьніц і лямпадак каля ложка Міхайлы варушыліся дзьве фігуры.

— Панясём з ложкам ці так?—спытала адна з іх.

— Так. З ложкам ня пройдзеш. Вось на табе, памёр ня ў час, небарака.

Адзін узяў Міхайлу за плечы, другі—за ногі і паднялі: рукі Міхайлы і крысься яго халата слаба павісьлі ў паветры. У беспарадку, стукаючы нагамі і ступаючы на крысься Міхайлы, яны пашлі з палаты.

У грудзёх спаўшага дзядулі чутны былі сьвіст і сьпяваньне на розныя галасы. Пашка прыслухаўся, глянуў на цёмныя вокны і ад жаху ўскочыў з ложка.

— Ма-а-ма!—закрычаў ён басам.

І не чакаючы адказу, ён кінуўся ў суседнюю палату. Тут бляск лямпы і газьніцы ледзь-ледзь асьвятляў прыцемкі; хворыя, устрывожаныя сьмерцю Міхайлы, сядзелі на сваіх ложках; перамешваючыся з ценямі, ускудлачаныя яны ўяўляліся шырэйшымі, вышэйшымі ростам і, здавалася, рабіліся ўсё большымі і большымі; на крайнім ложку ў кутку, дзе было цямней, сядзеў селянін і ківаў галавою і рукою. Пашка, не разьбіраючы дзе дзьверы, кінуўся ў палату, дзе былі хворыя на воспу, адтуль у калідор, з калідору ўбег у жаночую

# СТАРОЕ І НОВАЕ

**(П'еска ў аднэй дзеі)**

Удзельнікі:

Маці—жанчына, гадоў 50.
Сын—хлопчык, гадоў 14.
Поп.
Шаптуха—бабуля, надзетая ў звычайную сялянскую адзежу, крыху бруднаватую. У яе бутэлька з вадой, шматок лёну, стужкі.
Брудната—старэнькая бабуля, надзетая ў вельмі брудную адзежу, вельмі падраную. На нагах атопкі і брудныя анучы. Яна смаркаецца і абціраe нос рукавом.
Дробная гаспадарка—бабуля, надзетая ў дрэнную адзежу, у лапцёх. У руках трымае саху (модэль). Да сьпіны прывешаны цэп, якім малоцяць.
Чыстата—дзяўчынка, надзетая ў чыстую белую вопратку, у руках трымае мятлу. Добра, каб у яе былі: рушнік, мыла і г. д.
Асьвета—надзета ў адзежу, да якой прышыты газэты, часопісы. У руках кніжкі.
Мэдыцына—надзета ў халат. У руках трубка, зельле у бутэлячках.
Калгаспадарка—надзета чыста. У руках модэль трактара ці малатарні ці яшчэ якія-небудзь машыны.
Піонэры.
Павадыр.
Стары дзед, бабуля і жанчына з дзіцем.

Дзея першая.

Сялянская хата. Хлопчык чытае.

Маці—(*з ложка*). Усё, сыночак, ты чытаеш. Кінь ужо кніжку ды лажыся. Я ўжо, бачыш, задрамала. Вочкі хочаш папсаваць ты? І што ў кніжцы гэтай бачыш? Няўжо вельмі так цікава?

Сын—Сьпі матулька, сьпі! Я зараз. Яшчэ з хвіліну пачытаю.

Маці—Ты заўсёды гэтак кажаш: зараз лягу, зараз лягу. А сам як пачнеш чытаць во, дык



да пеўняў і чытаеш. І пра вошта ўсё чытаеш?

Сын—Праз цемнату, шэпты, праз брудната ў кніжцы сёньня я чытаю. І каб ведала ты, мама, у якой цямноце ты век пражывала, не заснула-б і ты сёньня, а са мною-б тут чытала і са мною-б размаўляла. Толькі дзе? Ты змалку, мама, ня чытала, ня цікавяць цябе кніжкі.

Маці—Змалку, сынку, ня чытала. Праўду кажаш. Ды вось бачыш—дзетак усіх узгадавала. Толькі пяцёра з усіх цяпер памерлі. Вочы-ж і дагэтуль бачаць мае зырка. А вось ты, сыночак, бачу, што асьлепнеш, калі гэтак будзеш кніжкі ўсё чытаць. Лепей раскажы мне праз усё, што ў кніжцы сёньня прачытаў.

Сын—Вельмі рады, мама, усё я расказаць. Хуценька з табою сяду я на ложак (*садзіцца каля маці*). Вось паслухай, мама, і пабач малюнкі. Вось тут поп стаіць. Перад ім жанчына, клумак за плячыма. На руках у маткі хворае дзіцятка. Вось бабуля, старая. Бачыш? Слухай, мама, што гавора поп (*уваходзіць поп, жанчына з дзіцянём, бабуля і дзед*).

Поп—Я—поп, дурман нясу народу. Я мужыкоў дурыў, дуру. Ды ўжо ня слухаюць цяпер і падарункаў не нясуць. Ох, бывала, а цяпер: раз, два, тры і аблічыўся (*глядзіць наўкола і разводзіць рукамі*). Нас, папоў, мужык баяўся. У цямноце доўга жыў. Поўна цэркаўка бывала, і кішэні нашы поўныя. На радзіны і на хрысьціны, на вясельле, пахаваньне нас заўсёды ўпрашалі. Ну,



а мы дурыць умелі з дапамогай цара, пана (*жагнаецца*). Царства

---

палату, пасьля ён зноў апынуўся ў калідоры, убачыў білы знаёмых усходаў і пабег уніз. Тут ён пазнаў прыёмную, у якой сядзеў раніцай і пачаў шукаць выхадных дзьвярэй.

Засовец ляснуў, павеяла халодным ветрам, і Пашка, спатыкаючыся, выбег на двор. У яго была адна думка—бегчы і бегчы! Дарогі ён ня ведаў, але быў упэўнены, што калі пабяжыць, то напэўна апыніцца дома ў маткі. Ноч была хмурная, але за хмарамі сьвяціў месяц. Пашка пабег ад ганку проста наперад і наткнуўся на густыя кусты; пастаяўшы трохі і падумаўшы, ён кінуўся назад да бальніцы, абабег яе і зноў спыніўся ў нерашучасьці: за бальнічным корпусам відаць былі белыя магільныя крыжы.

— Ма-амка!—закрычаў ён, і кінуўся назад.

Прабягаючы каля цёмных, лютых будынкаў, ён убачыў адно асьветленае вакно. Яркая чырвоная пляма ў цемнаце здавалася страшнаю, але Пашка, звар'яцеўшы ад сполаху, ня ведаў куды бегчы, павярнуў да яе. Побач з акном быў ганак з усходамі і парадныя дзьверы з белаю дошчачкаю; Пашка ўзьбег на ўсходы, глянуў у вакно, і вострая радасьць раптам захапіла яго, ауладала ім. Праз вакно ён убачыў вясёлага плячыстага доктара, які сядзеў за сталом і чытаў кнігу. Пашка ўзрадаваўся, працягнуў да знаёмага твару рукі, хацеў гукнуць, але невядомая сіла сьціснула яго дыханьне і ўдарыла па нагах; ён пахіснуўся і страціўшы сьвядомасьць кінуўся на сходкі...

Калі ён апомніўся, было ўжо відно, вельмі знаёмы голас, які абяцаў учора кірмаш, чыжыкаў і лісіцу, гаварыў каля яго:

— Ну, і дурань, Пашка! Ці-ж ня дурань? Біць-бы цябе ды няма каму!

А. П. Чэхаў.

ім нябеснае. А цяпер ужо ня тое—наша цэркаўка пусьцее (*адыходзіць у бок*).

(*Маці ківае галавой*).

Сын—(*Лістаючы кніжку*). А вось шаптуха, брудната і дробная гаспадарка. (*Уваходзіць шаптуха, брудната і дробная гаспадарка. Яны ўсе выглядалі з-за дзьвярэй, як казаў поп, а пры апошніх словах шаптуха, а за ёй і брудната з дробнай гаспадаркай вышлі на сцэну. Дзед, бабуля і жанчына выходзяць*).

Шаптуха—Ці ты-ж адзін цяпер гаруеш? Ну паглядзі, як я жыву. Ня вераць мне, а як раней бывала хадзілі ўсе: ху-ху! цьху-цьху. Шы-шы, шы-шы! Ды-шы-шы, шы-шы! Ць-ху, ць-ху! Ху, ху! Ды-шы-шы-шы... А бабы верылі і гукалі да людзей хворых і жывёл. Ну, а цяпер пазабывалі: у больніцу езьдзяць да дактароў. (*Качае з жалем галавой*).

Дробная гаспадарка(*разводзячы рукамі*)—Дзе-ж жыцьця чакаць ужо лепшага, калі і да мяне дабраліся старэнячкай. Ой, ой, ой! Што будзе са мной? Тысячы год працавала. Хлеба людзям не давала, у лапці я іх абувала. А цяпер гоняць мяне. Бывала, жылі... Потам ды кроўю мяне паілі. З голаду, холаду пухлі—мяне не клялі, толькі бога ўсё паміналі. Вось дзе жыцьцё было. Ой, ой! Ну, а цяпер паразумнелі—агульна хочуць працаваць. Пра колектывы ды пра камуны лаўсюды толькі і гамоняць. Ды ўжо няхай-бы гаманілі. Дык не, і працу пачалі: шмат колектываў, саўгаспадарак машынамі ўжо загулі. Ледзь на куткох далёкіх цёмных я дажываю свае дні. (*Плача*).

Брудната—Ох, што пра вас ужо казаць ды казаць, калі брудноту гоняць з хат, гоняць з хат усе! Нават, нават, мілыя мае, ня толькі з хат. А ўжо і гоняць са двара, са двара, ага! Вось і чакай ты лепшай долі, не спрачайся з піонэрам, а ні-ні! Дзе-ж ужо вам жыцьцё настане, калі мяне, брудноту, тураць ва ўсе лапаткі з вёсак вон. Эх, а жыцьцё мае бывала—любата: усе куточкі, пасьцель, адзежа, усе сьцены, падлога—усё маё. Панаплёўваюць панакідаюць сьмецьця, а я сяджу ды сьмяюся. Як разгарнуся, як разыйдуся—усю хату, двор,—усё займу. А людзі гінуць, жывёла гіне... Я ўсім хваробам пасаблю. Ну, а цяпер я, як старчыха, ледзь у нядбайцаў вось жыву і разам з вамі, з шаптунамі, цяпер жыцьцё сваё кляну. (*Уздыхае і ківае галавой*).



Сын—Ну, ці прыглядзілася ты, мама, і ці ўцяміла хоць што?

Маці—Ды-ж як, сыночку, усё бачу, родны. Ну, а далей што—пакажы.

Сын—А далей вось тут піонэры, за імі ўсьлед ідзе асьвета, колгаспадарка, чыстата, а тут вось і мэдыцына. (*Уваходзяць піонэры, чыстата, калгаспадарка, асьвета і мэдыцына*).

Адзін з піонэраў—Эй паглядзеце, піонэры, брудното мейсца тут знайшла (*паказвае на брудноту*). Хутчэй ганеце яе адгэтуль. Дзе чыстата? Дзе чыстата?

Чыстата—Я тут. Мятлою за хвілінку брудноту вымету адгэтуль. Я ўсё памыю, я ўсё пачышчу. На то завуся я—чыстата. (*Вымятае брудноту*).

Другі піонэр—А паглядзеце і гаспадарка дробная тут месца знайшла. За ёю поп, там і шаптуха... Хутчэй сюды, хутчэй сюды! А дзе-ж асьвета, колгаспадарка, дзе мэдыцына? Усе—сюды! Далоў цямноту, далоў бядноту! У паход культурны хадзем усе мы! (*Поп, шаптуха выходзяць, сагнуўшыся і азіраючыся. Дробная гаспадарка застаецца ля дзьвярэй, прытулілася, прыслухоўваецца*).

Павадыр—Да змаганьня з цемраю вёскі, будзь, піонэр, заўжды гатоў!

Піонэры—Заўжды гатоў!

Асьвета—Я—асьвета, пагроза ўсім. З сабою веды я нясу. Пра мэдыцыну, колгаспадарку, пра лепшае жыцьцё кажу.

Мэдыцына—А я хваробам люты вораг. Усім хворым пасаблю. А ўсіх шаптух, усе забабоны з куточкаў цёмных праганю.

Колгаспадарка.—Вось і я да вас прышла. Машыны вам я прынясла. (*Да дробнай гаспадаркі*). Вон адгэтуль бабуля-дробязь! Мы новы быт нясём! Мы голад гонім, цямноту гонім, дружна-ўсе пяём! (*Сьпяваюць усе: „Мы кавалі“... Абыходзяць па сцэне некалькі разоў у нагу і выходзяць*).

Сын—Вось, матулька, што я сёньня ў сваёй кніжцы прачытаў. (*Зварочваецца да публікі*):

Жыцьцё новае збудуем
Мы на іншы лад, манер.
Чыстату—заместа бруду
Нясе ў вёску піонэр.



Мы ўсіх грамаце навучым,—
Болей вёсцы сьвету!
Замест цемры, забабонаў
Мы нясём асьвету.

*Заслона.*

**А. Цітава.**



# ГВАЛТОЎНА ЗАХАПІЛІ ЧЫГУНКУ.

10 ліпеня 1929 г. Кітайская ўлада зноў зрабіла бандыцкі наскок на Кітайска-Усходнюю чыгунку. Бяз усякіх тлумачэньняў былі зачынены ўсе Савецкія прадстаўніцтвы і ўстановы. Захоплен тэлеграф і парваны тэлеграфныя зносіны з СССР.

Акрамя гэтага дубань дарогі (Старшыня Праўленьня) Люі-Чжун-Хан прапанаваў кіраўніку чыгункі, т. Емшанаву, перадаць кіраўніцтва чыгункаю стаўленіку дубаня. Вядома, што т. Емшанаў ня выканаў гэтага незаконнага запатрабаваньня, пасьля чаго ён быў адхілены ад работы. Усіх савецкіх працаўнікоў чыгункі Кітайская ўлада таксама зьняла і замяніла іх кітайцамі і расійскімі белагвардзейцамі. Шмат нашых працаўнікоў было арыштавана і выслана ў СССР.

Але гэтага мала. Кітайская паліцыя разбурыла ўсе прафэсыянальныя і кооператыўныя організацыі чыгункі і арыштавала 200 чалавек нашых рабочых і служачых.

Да самае мяжы СССР падвезена манчжурскія войска, а таксама каля мяжы СССР стаяць расійскія белагвардзейскія атрады, якія маюць намер перайсьці мяжу і напасьці на СССР. Нават ужо пераходзяць,—16 чалавек з іх, белагвардзейцаў-тэрарыстых, ДПУ затрымала і 23 ліпеня па прыгавару растраляла.

Вайны мы ня хочам і некалькі разоў рабілі прапановы Кітаю, каб усе спрэчныя пытаньні вырашыць мірным шляхам. Але-ж, калі кітайскія генэралы, якія стаяць на чале ўлады гэтага ня зробяць, калі яны і надалей будуць парушаць правы і інтарэсы СССР: рабіць наскокі, падтрымоўваць белагвардзейцаў і інш., то мы знойдзем патрэбныя сілы і сродкі, каб абараніць межы СССР.

Піонэрскія атрады таксама павінны рыхтавацца, праверыць наколькі яны гатовы да абароны СССР.

А мы павінны быць **заўжды гатовы.**

# ЧЫЯ ЧЫГУНКА?

Кітайска-Усходняя чыгунка была пабудавана задоўга да рэволюцыі ўрадам царскай Расіі. Усе выдаткі ішлі за „дзяржаўны" рахунак, іншымі словамі—**НА ГРОШЫ, ВЫЖАТЫЯ З ПРАЦОЎНАГА НАСЕЛЬНІЦТВА РАСІІ.**

**У свой час царскі ўрад выпрацаваў сумесна з Кітаем „статут" чыгункі, які прадстаўляў амаль неабмежаваныя паўнамоцтвы Расіі. Ня толькі ўся чыгунка, але і шырокая паласа па абодвых бакох яе былі ФАКТЫЧНА АДДАНЫ Ў ПОЎНАЕ РАСПАРАДЖЭНЬНЕ ЦАРСКАГА ЎРАДУ.**

**Гэты кабальны для кітайскага народу дагавор быў зьменен толькі пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі. Тады савецкі ўрад па ўласнаму пачыну адмовіўся ад шэрагу пераваг, уніжальных для кітайскага народу. У 1924 г. была заключана з пэйпінскім урадам асобная згода аб Кітайска-Усходняй чыгунцы. Па гэтай згодзе чыгунка была абвешчана самастойным камэрцыйным прадпрыемствам, а ўпраўленьне ёю ўскладзена на органы, складзеныя напалову з прадстаўнікоў СССР і на палову з прадстаўнікоў Кітаю.** Старшынёю праўленьня чыгункі (дубань) назначаецца кітаец, а ўпраўляючы чыгункі падданы СССР.

Судовыя пытаньні, грамадзянская і вайсковая адміністрацыя, паліцыя—усё гэта СССР перадаў Кітаю. Мала таго, урад **СССР ТАДЫ-Ж ДАЎ ЗГОДУ НА ВЫКУП УСЁЙ ЧЫГУНКІ КІТАЙСКІМ УРАДАМ.**

**Гэтая згода дзейнічала з 1924 г. да апошніх дзён, калі кітайскія генэралы без усялякага поваду і папярэджаньня захапілі ў свае рукі Кітайска - Усходнюю чыгунку.**

**Ня кажучы ўжо аб вялізарнай каштоўнасьці чыгункі (у 1924 г. каштоўнасьць яе пабудоў вылічвалася ў 400 мільёнаў руб.), КУ чыгунка аднак важна для нармальных гандлёвых зносін цэлага шэрагу дзяржаў.**

**КУ чыгунка праходзіць па тэрыторыі Манчжурыі, але прадстаўляе сабою найкаротшы шлях паміж станцыяй Манчжурыя (на савецка-манчжурскай мяжы) і Уладывастокам. Ёсьць і абходны шлях, які абходзіць з поўначы Манчжурскую мяжу па левым баку ракі Амура.**

**Акрамя таго, у склад Кітайска-Усходняй чыгункі ўваходзіць і ветка, якая адходзіць ад Харбіну на поўдзень, да Мукдэну (адтуль ідзе шлях на Пэкін).**

**Агульны працяг Кітайска-Усходняй чыгункі—2.200 кілёмэтраў. Праз яе ідуць грузы земляробчых прадуктаў Манчжурыі, прыморскі вугаль і г. д. Паміма гэтага КУ чыгунка—вучастак прамога шляху з Эўропы ў Кітай, Карэю і Японію.**

## ПІОНЭРСКІ ПРАТЭСТ.

*Мы, піонэры Клічаўскага раёну, якія сабраліся на піонэрскі зьлёт, каб падвесьці вынікі нашай гаспадарчай, грамадзкай працы, заслухаўшы інформацыю аб падзеях на Ўсходня - Кітайскай чыгунцы, рашуча пратэстуем супроць наглых дзеяньняў Кітайскіх мілітарыстых, якія хочуць сарваць мірнае будаўніцтва соцыялізму ў СССР.*

*Мы ўпэўнены, што пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі, якая ўмела кіравала ў дні пераможнага Кастрычніку і кіруе социялістычным будаўніцтвам, Савецкая ўлада дасьць належны адпор контр-рэвалюцыянэрам Кітаю.*

*— Дзеці рабочых і сялян усяго сьвету для абароны бацькаўшчыны працоўных СССР—будзьце гатовы!*

*Зьлёт адказаў: Заўжды гатовы!*





# ПАДУМАЙ!

### ЯКІЯ ЛІНІІ?

У які бок сагнуты лініі гэтага трыкутніка?



### ЧАТЫРЫ ФІГУРЫ.

Якая з гэтых чатырох фігур самая меншая і самая большая? Адказ дайце на свой погляд.



### ЖЫВАЯ ТАБЛІЦА МНОЖАНЬНЯ

Адзін вучань скардзіўся, што яму цяжка запамятаць табліцу множаньня першых дзесяці лічбаў на дзевяць. Бацька яго знайшоў вельмі лёгкі і просты спосаб дапамогі слабому на памяць сыну. Для гэтага спосабу патрэбны толькі пальцы рук.

Палажэце свае рукі на стол, адну ля другой, і няхай кожны палец па чарзе вызначае сабою пэўную лічбіну: першы (зьлева направа)—1, другі за ім—2, трэці—3 і г. д. аж да дзесятага.

Цяпер вы хочаце які-небудзь лік у межах дзесятка памножыць на дзевяць. Для гэтага вы паднімеце ўгору той палец, які лік вы множыце. Лік пальцаў зьлева пакажа вам дзесяткі сумы, а лік справа—адзінкі.

Напрыклад: трэба памножыць 7×9. Паднімеце сёмы палец (згодна вашаму умаўленьню). Зьлева ад гэтага пальца застанецца шэсьць пальцаў (дзесяткі сумы), а справа тры пальцы (адзінкі) і усяго будзе—63.



## АДКАЗЫ

### на задачы, зьмешчаныя ў № 9—14.

**№ 9 „Б. П.“ Загадкі-жарты:** 1) па балоце, 2) барана. **Народныя загадкі:** „зайчык“, гром, агонь, мароз, ноч і дзень, жорны, моркаў, камар, цень, язык, серп.

Куды пахаваліся зладзеі?—у гальлё; іх больш 30.

**№ 10 „Б. П.“. Капеечны конь.** Гандляр запрасіў за каня 146,672 руб. 15кап.

**Ці правільны малюнак?** Не, бо чалавек на ім намаляваны вельмі вялікі ў параўнаньні з вучнем, які знаходзіцца на пярэднім пляне малюнку: інакш кажучы—ня вытрымана пэрспэктыва.

**Як падзяліць яблыкі?**—У кошыку застанецца яблык таго піонэра, якому прыпадзе сам кошык.

Задачы-жарты: Калі яго укусіць; лёдавыя цыбукі (сасулькі). Рэбус: Чырвоная Зьмена.

**№ 11 „Б. П.“. З чатырох зрабі тры—Задача жарт:** трыццаць. **Які твор і аўтар?**—Сымон Музыка Я. Коласа. **Рэбус:** Злосьці поўны косьці.

**№ 13—14. Чароўны пень.** Гэтую задачу трэба рашаць з канца. Вы ведаеце, што пасьля трэцяга падваеньня ў кашальку было толькі 1 р. 20 к. Колькі-ж было да гэтага падваеньня? Зразумела, 60 кап. Засталіся гэтыя 60 кап. пасьля выплаты дзеду 1 р. 20 к. пры другім вопыце, а да выплаты было, зразумела, 1 р. 80 к.

Але 1 р. 80 к. аказаліся ў кашальку пасьля другога падваеньня; да яго было ўсяго 90 кап., якія засталіся пасьля выплаты дзеду першых 1 р. 20 к. Значыцца, да гэтай першай выплаты ў кашальку было 90 к. + 1 р. 20 к.=2 р. 10 к. Гэтулькі грошай было ў кашальку пасьля першага падваеньня; спачатку-ж было ў два разы менш—1 р. 05 к. Гэта і ёсьць тыя грошы, якія меў селянін пры спатканьні з дзедам.

На самай справе:

Пасьля першага падваеньня ў яго стала: 1 р.05 к.×2=2 р. 10 к.

Пасьля першай выплаты дзеду: 2 р. 10 к.—1 р. 20 к.=90 к.

Пасьля другога падваеньня ў яго стала: 90 к.×2=1 р. 80 к.

Пасьля другой выплаты дзеду: 1 р. 80 к.—1 р. 20 к.=60 к.

Пасьля трэцяга падваеньня ў яго стала: 60 к.×2=1 р. 20 к.

Пасьля трэцяй выплаты дзеду: 1 р. 20 к.—1 р. 20=0.




### Таварыш

— У мяне выключны таварыш!

— Чаму?

— Да ўсюды яго выключаюць: з атраду выключылі, з школы таксама.

### Прадугледзеў

— Чаму гэта ты, калі пазяхаеш заўсёды палец у рот кладзеш?

— А гэта я для таго, каб ты свой не паклаў.

* * *

— За што гэта цябе ўчора Міхась к павадыру цягнуў?

— Як за што!? За каўнер.

### Даведаўся!..

— Пятрусь, як ня брыдка, ты нават ня ведаеш, што ўчора ў лягеры сход аб сацыялістычным спаборніцтве быў...

— А ты адкуль ведаеш?

— А мне толькі што Янка сказаў.

Друк. БДВ. Зак. № 3281. У ліку 1.500. Галоўлітбел № 2155.